# Медінстытут—у пасынкі?

## Зона асаблівай увагі

**14 лістапада мінулага года Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб заснаванні Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута. Мэта яго — паляпшэнне забеспячэння ўрачэбнымі кадрамі лячэбна-прафілактычных устаноў, павышэнне ўзроўню і якасці медыцынскай дапамогі насельніцтву раёнаў, пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС.**

**Сёлета інстытут пачаў працаваць. На першы курс было прынята каля трохсот студэнтаў, якія паспяхова вытрымалі ўступныя экзамены (дарэчы, конкурс тут быў самы высокі сярод медыцынскіх ВНУ рэспублікі — амаль пяць чалавек на месца). Акрамя таго, 56 студэнтаў шостых курсаў з розных медыцынскіх інстытутаў вырашылі заканчваць вучобу ў Гомелі. У горад прыехалі выкладчыкі з розных месц краіны, а для заняткаў былі выдзелены спецыяльныя будынкі.**

**Здаецца, усё ішло нармальна, як намячалася. І раптам на мінулым тыдні на вуліцах Гомеля з'явіліся афішы і лістоўкі. У іх гаварылася, што супрацоўнікі і студэнты гэтай ВНУ вымушаны пайсці на бестэрміновую забастоўку і пікетаванне гарсавета, а святары Петрапаўлаўскага сабора прысвяцілі ім пропаведзь. Што ж здарылася? З гэтым пытаннем наш уласны карэспандэнт У. Пернікаў звярнуўся да прарэктара па навучальнай рабоце, дацэнта Э. Капітонавай. Вось што яна расказала:**

— Давайце прыгадаем наступнае. У час выбарчай кампаніі ў мясцовыя органы ўлады многія прэтэндэнты на дэпутацкія мандаты перамаглі таму, што абяцалі змагацца за хутчэйшае пераадоленне вынікаў чарнобыльскай трагедыі. Стварэнне ў Гомелі медыцынскага інстытута было тым самым «ханьком» іх праграмы для выбаршчыкаў.

**— Гэта, Элеанора Кузьмінічна, правільнае патрабаванне...**

— А я і не пярэчу, бо сітуацыю разумею вельмі добра. Не сакрэт, што пасля аварыі ў Чарнобылі з Гомельшчыны пачаўся вялікі адток людзей, у тым ліку і медыцынскіх кадраў, якія лепш за іншых уяўлялі, якую пагрозу чалавеку нясе «мірны» атам. Сёння ў абласным цэнтры заняты толькі крыху больш палавіны ўрачэбных ставак, і ў аддзеле аховы здароўя гарвыканкома лічаць нармальным, калі на трох участках працуе толькі адзін урач. У раёнах з урачамі становішча яшчэ больш катастрафічнае, а з сярэднім медыцынскім персаналам наогул бяда.

Ідэю адкрыцця інстытута, які рыхтаваў бы медыкаў для Гомельскай і Магілёўскай абласцей, падтрымлівалі ўсе, і нам здавалася, што тут праблем не будзе.

Трэба заўважыць, што ў канцы сёлетняга студзеня аблвыканком прыняў рашэнне аб стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы інстытута з тым, каб у верасні пачаліся заняткі. Для нашай ВНУ былі выдзелены тры будынкі: закінутага дзіцячага садка, вучэбна-вытворчага камбіната і абласнога савета аб'яднання прафсаюзаў. Будынкі старыя, патрабуюць рамонту.

**— І вы згадзіліся заняць іх, нягледзячы на раскіданасць і непрыстасаванасць?**

— А куды дзенешся, калі ў горадзе на той час не было пустых памяшканняў? Дарэчы, гарадскія ўлады нам у гэтым ніякай дапамогі не аказвалі, іх мы шукалі самі. Аблвыканком, праўда, даў заданне пэўным службам забяспечыць нас усім неабходным, аднак сваё рашэнне як след не кантраляваў. Сёетое было зроблена, аднак і сёння ніводзін з будынкаў не гатовы да заняткаў. Калі пачаўся іх рамонт, а ў ім цэлы месяц удзельнічалі студэнты, мы зразумелі, што нас чакае. Трэба сантэхніку мяняць, усе камунікацыі. А паспрабуй знайсці трубы неабходнага дыяметра, дэталі розныя і да т. п. Наш забеспячэнец аб'ездзіў усю рэспубліку, а толку так і не дабіўся, хоць аблвыканком усе заяўкі падпісаў. Дарэчы, трыццатага верасня тэхнагляд прыслаў нам прадпісанні, у якіх указваецца, што па тэхнічнаму стану заняткі ў тых будынках праводзіць нельга.

**— А што ў перспектыве з новым будаўніцтвам?**

— Раней абяцалі праз тры гады ўзвесці комплекс будынкаў. Цяпер разумеем, што і за 5—7 гадоў нічога не будзе. Раней — гэта ў студзені — лютым, калі сітуацыя ў краіне была зусім іншай. Упраўленню капітальнага будаўніцтва аблвыканкома было дадзена заданне адвесці пляцоўку, распрацаваць усю дакументацыю, каб пачаць узводзіць інстытут побач са спецыялізаваным дыспансерам, які будуецца па чарнобыльскай праграме. Дарэчы, там жа, у Навабеліцы, павінен размясціцца цэлы медыцынскі гарадок з жылымі дамамі для прафесарска-выкладчыцкага саставу і інтэрнатам для студэнтаў.

**— Дарэчы, а дзе жывуць яны зараз?**

— Слушнае пытанне. Праз «Медицинскую газету» мы аб'явілі аб адкрыцці інстытута ў Гомелі і запрасілі да сябе высокакваліфікаваныя кадры. Прыехала шмат добрых спецыялістаў з нашай і іншых рэспублік, зараз маем поўны набор выкладчыкаў і супрацоўнікаў (іх у нас 250). А вось з кватэрамі цяжкавата. Па паўгода і больш многія жывуць у гасцініцы. Дарэчы, два прафесары з-за гэтага паехалі назад. І ўсё ж нам удалося ўкамплектаваць кіраўнікамі ўсе 15 кафедраў — 13 кандыдатаў і 2 доктары навук.

Дзе жывуць студэнты? Для іх быў выдзелены інтэрнат прафтэхвучылішча № 113, які яны вымушаны былі пакінуць. Вады там няма, туалеты не працуюць. Давялося адміністрацыі шукаць, дзе іх рассяліць. Зараз жывуць хто дзе. Паспрабуй вось у такіх умовах праводзіць выхаваўчую работу сярод іх.

**— Што і казаць, праблем цэлы вузел. Але ці толькі з-за гэтага ваш калектыў вырашыў баставаць?**

— Ды не. Праблемы мы навучаны пераадольваць. Вось прыклад. Уявіце, якую работу наш калектыў правёў. Пра камплектацыю прафесарска-выкладчыцкага саставу ўжо сказала. Цяжкасці з вучэбнымі дапаможнікамі для студэнтаў пераадолелі. Як кажуць, паднялі на ногі, лічыце, усе медыцынскія ВНУ краіны, каб яны падзяліліся з намі. Нам пайшлі насустрач Санкт-Пецярбург, Масква, Кішынёў, Ялта, Цюмень, Віцебск, Мінск, Гродна, многія іншыя гарады, якія прыслалі 20 тысяч кніг па ўсіх прадметах. Пайшлі нам насустрач і тады, калі паўстала пытанне аб аснашчэнні інстытута рознай апаратурай і матэрыяламі. Мы атрымалі тое, чаго не маюць іншыя, нават буйныя медыцынскія ВНУ краіны. Напрыклад, цытафотаметр, камп'ютэрныя класы, поўны набор сухіх і вільготных прэпаратаў па анатоміі і г. д. Цяжкі і складаны перыяд станаўлення інстытута здолелі зразумець староннія людзі, а вось родныя гарадскія ўлады, якія, здаецца, павінны клапаціцца пра нас больш за ўсіх, займаюць пазіцыю процістаяння, ставяць палкі ў колы і, гаворачы медыцынскай мовай, хочуць адабраць у хворага на ногі жабрака мыліцы.

**— Што вы, Элеанора Кузьмінічна, маеце на ўвазе?**

— А вось што. Сесія абласнога Савета народных дэпутатаў прыняла рашэнне перадаць адзіны пустуючы будынак у горадзе — абкома КПБ — пасля прыняцця закона аб маёмасці КПСС—КПБ нашаму інстытуту. Народныя абраннікі зыходзілі з таго, што інстытута без памяшканняў няма, што чакаць тыя 5—7 гадоў, калі для яго будзе пабудаваны комплекс, нельга, бо ўжо сёння з-за няхваткі ўрачоў паміраюць дзеці, пакутуюць і дарослыя, арганізм якіх раз'ядаюць чарнобыльскія радыенукліды.

А вось гарадскі Савет, большасць дэпутатаў якога лічаць сябе дэмакратамі, разгарнуў актыўную дзейнасць з тым, каб будынак абкома партыі пусціць пад бізнес-цэнтр, пад камерцыю.

**— Вы прэтэндуеце толькі на будынак абкома КПБ?**

— Ды не. Мы згодны і на іншы, дзе можна было б як след весці навучальна-выхаваўчы працэс. Мы не згодны толькі займацца ў тых непрыстасаваных, напаўразваленых будынках, якія нам выдзелілі. У заключэнне скажу так, як напісалі на адным з плакатаў студэнты, рыхтуючыся да забастоўкі і пікетавання гарсавета: «Бацькі горада! Нованароджаны інстытут — не падкідыш, а ваша дзіця. Прызнайце яго сваім!»

# УХВАЛІМ ГУДЫ І РУСІНКІ?

Год таму назад народны дэпутат БССР З. Пазьняк пісаў у «Звяздзе»: «У аснове суверэнітэту ляжыць некалькі палітычных, юрыдычных і эканамічных умоў, якія з'яўляюцца абавязковымі для ажыццяўлення дзяржаўнай незалежнасці і забеспячэння нармальнага цывілізаванага існавання народа. Адна з іх — наяўнасць нацыянальнай крэдытна-фінансавай сістэмы і грошай, што дазваляе нацыі накопліваць багацце, не дапускаць марнатраўства працы, абараняць свой таварны рынак...»

На прыкладзе свайго раёна я пераканаўся, як цяжка засцерагчы спажывецкі рынак Беларусі без нацыянальнай валюты. А меры ўрада, скажуць мне? А меры вядомыя: «трымаць і не пушчаць».

І з'явіліся ў нас на граніцы з Літвой кардоны (КПП). А калі гэтага аказалася недастаткова, райсавет утварыў рэйдавыя брыгады па выяўленню зламыснікаў. І тым не менш ніякія забароны не дзейнічаюць. Там жа, за Сольчай-ракой больш плацяць за жывёлу. І мясцовыя ўлады, каб абараніць спажывецкі рынак, вымушаны ісці на канфлікт не толькі з літоўскімі перакупшчыкамі, але і са сваімі землякамі: людзей штрафуюць, а жывёлу канфіскуюць. Але ж можна было зрабіць разумней, скажам, паставіць уздоўж граніц з суседзямі своеасаблівыя «ўлоўнікі»: дазволіць прыгранічным раёнам купляць жывёлу па той цане, якая ўстаноўлена ў суседзяў. Нішто не «пабегла б» за межы рэспублікі, усё акумулявалася б у сваіх раёнах. А потым можна было б зрабіць якіясь пераразлікі, калі падумаць.

Вядома, гэта не самы лепшы варыянт. Лепшы — свая валюта. Яна дазволіла б затрымаць і вываз прамысловых вырабаў. А колькі ўсяго вывозіцца — уявіць нават цяжка.

Былі б свае грошы, мусіць, на «драўляныя» рублі ніхто не пакваліўся б. А пакуль багатыя суседзі (у іх жа зарплата ўдвая вышэйшая) прыязджаюць з мехам грошай і скупліваюць усё, што трапіць пад руку.

А хто падлічыць маральныя страты? Хабар, што разрастаецца чартапалохам, разбэшчвае работнікаў гандлю. Ды не толькі іх.

Сёння ўжо і Масква змірылася з тым, што суверэнныя рэспублікі могуць мець свае грошы. Беларусь — у тым ліку.

Дык якімі павінны быць грошы нашы, як выглядаць, называцца?

Зробім невялічкі экскурс у гісторыю беларускага народа. Памятаеце, у старажытнасці беларускамоўнае насельніцтва мела некалькі назваў, якія існавалі ў якасці экзаэтнонімаў. Прыгадаю дзве з іх — гэта гуды і русіны. Яны захаваліся ў тапонімах (Гудагай, Гудалаўка), прозвішчах (Гуд, Гудзіновіч, Русін, Русіновіч). А цяпер уявіце сабе, што гэтыя экзаэтнонімы мы знаходзім у назве нашых грошай: гуды і русінкі. Параўнаем: гуды —гэта тыя ж самыя рублі, долары, маркі; русінкі — капейкі, цэнты, пфенігі. Зазначце: усё на нацыянальнай аснове. Назвы мілагучныя, лёгка засвойваюцца і запамінаюцца. Уявіце такі запіс у энцыклапедыі: «гуд — грашовая адзінка Рэспублікі Беларусь, роўная 100 русінкам. Уведзена ў 1991 годзе».

Канешне, я нічога не маю супраць талера. Дарэчы, ад гэтага нямецкага слова паходзіць назва долара ЗША, Канады, Аўстраліі, Новай Зеландыі і іншых дзяржаў. І іх гэта не абурае. Але ці ёсць у нас патрэба ў запазычанні, калі пад рукою свае беларускія назвы?

Ухвалім?

**М. ТРУШКО,**
**рэдактар**
**Воранаўскай райгазеты.**

***

**СТАНОВІШЧА супрацоўніка рэспубліканскай газеты прымушае мяне з павагай ставіцца да чужога пункту погляду. Але ж яно не перашкаджае мець уласнае меркаванне, і ў яго святле пракаменціраваць пісьмо калегі з Воранава. Тым больш, што думка М. Трушко адносна неабходнасці ўвядзення нацыянальнай валюты карыстаецца пэўнай папулярнасцю.**

**Крыху здзіўляе, канешне, што аўтар заняты ў асноўным праблемай, як будуць называцца нашы грошы? Хіба ўсе астатнія праблемы ўжо вырашаны? І можна ўключаць станок? І тады сапраўды беларускі рынак акажацца на замку? А каму ад гэтага будзе лепш? Вельмі сумняваюся, што ў нас аўтаматычна наступіць таварна-харчовы рай. Нагадаю таксама, што натуральная гаспадарка — этап, які даўно прайшлі не толькі Еўропа і Амерыка, але і тая ж Беларусь. М. Трушко лічыць: «свая валюта дазволіла б затрымаць вываз прамысловых тавараў». Ці ведае ён, што многія тавары, якіх не вырабляе рэспубліка, можна набыць толькі ў абмен на штосьці з іншых рэгіёнаў? На халадзільнікі, тэлевізары, грузавікі і г. д. Калі мы не будзем вывозіць тавары — адзіную нашу валюту, хто павязе да нас свае?**

**Рынак — усё ж такі, далібог, катэгорыя не нацыянальная. Жыве па сваіх законах. Мытні, КПП, «кардоны» могуць яму перашкодзіць, але забараніць яго не могуць. Таму, калі ў Літве даюць за жывёлу больш, то прадавец павязе яе менавіта туды, а не ў Воранава. Нацыянальная валюта тут не дапаможа, а толькі ўнясе момант дадатковай неразбярыхі, падштурхне людзей да пошуку цвёрдай грашовай адзінкі. Зусім магчыма, што гэта будзе ўсё той жа рубель, які падскочыць у цане. Адзінае, што можна і трэба зрабіць, — гэта павысіць закупачныя цэны. Інакш кажучы, стварыць больш выгадныя ўмовы для камерцыі, тым самым правакуючы прыток капіталу і тавараў у рэспубліку, а не з яе. Гэта прапісная ісціна, але мы і яе яшчэ не засвоілі.**

**Наіўным мне здаецца таксама сцвярджэнне, што Масква «змірылася з тым, што суверэнныя рэспублікі могуць мець свае грошы». Самыя свежыя звесткі: Дзяржбанк не будзе аплачваць рахункі Латвіі па латышскай нацыянальнай адзінцы — латах. Не таму, што не прызнае незалежнасці краін Балтыі. Проста не ведае залатога забеспячэння лата, яго курса ў адносінах да рубля, інвалют і многага іншага. Хто сказаў, што з беларускай валютай не будзе гэткай жа гісторыі?**

**Не паўтараючы таго, што пісаў у артыкуле «Беларускія грошы: сальда не на нашу карысць», адзначу: Беларусь знаходзіцца прыкладна ў той жа сітуацыі, як і некалі Японія. Адсутнасць прыродных рэсурсаў прымусіла японцаў уключыць інтэлектуальны патэнцыял. Што з гэтага атрымалася — мы маем магчымасць назіраць. У нас таксама няма іншага шляху. Толькі за кошт высокай кваліфікацыі, развіцця навукаёмістай вытворчасці, укаранення перадавых тэхналогій рэспубліка можа спадзявацца на пераход з цяперашняга напаўвасальнага становішча ўскраіны імперыі да дзяржавы сапраўды, а не дэкларатыўна незалежнай.**

**С. ШАЎЦОЎ,**
**аглядальнік «Звязды».**

# Ваша пісьмо атрымалі

**Жыхар г. Горкі К. Гамонаў скардзіўся, што склалася нялёгкае становішча з уладкаваннем яго ўнукаў у школу.**

**Намеснік старшыні выканкома Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў Я. КАСЦЮКОВІЧ** паведаміў рэдакцыі: устаноўлена, што дачка аўтара пісьма Т. Дробышава з'яўляецца мнагадзетнай маці. Трое яе дзяцей (Алена, Міхаіл і Васіль) вучацца ў дапаможнай школе па рэкамендацыі абласной медыка-педагагічнай камісіі. Тры гады запар гэта камісія прапануе тую ж школу і дачцэ Дробышавай Ларысе, аднак маці і дзядуля не пажадалі, каб дзяўчынка займалася там, хоць яна ўжо трэці раз была пакінута на паўторны курс навучання ў першым класе. Цяпер Ларыса ўмоўна пераведзена ў другі клас. У СШ № 5 г. Горкі Ларыса і Ганна поўнасцю вызвалены ад платы за харчаванне.

У аддзеле сацыяльнага забеспячэння Т. Дробышава атрымлівае пенсію з выпадку страты кармільца і дапамогу адзінокай маці, штомесяц 130 рублёў кампенсацыі, плюс 12 рублёў 24 капейкі індэксацыі. У той жа час на Ларысу і Ганну выплачваецца 80 рублёў пенсіі і дапамога адзінокай маці на дачок Ганну і Святлану адпаведна 95 і 85 рублёў. Акрамя таго, у час летніх канікулаў на траіх дзяцей (Алену, Міхаіла і Віктара) выплачваецца 120 рублёў.

Паведамляецца таксама, што ў кватэры Т. Дробышавай сёлетняй вясной зроблены бягучы рамонт, заменена таксама газавая пліта. Да таго ж, мнагадзетная маці на 50 працэнтаў вызвалена ад уплаты за камунальныя паслугі.

●

**У жыхара в. Перавалокі Ганцавіцкага раёна А. Смоліча ўзніклі непаразуменні з выплатай яму грашовай дапамогі за догляд інваліда.**

**Начальнік упраўлення пенсій і дапамог Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Рэспублікі Беларусь В. ЖЫШКЕВІЧ** даў такое тлумачэнне: Праверкай пісьма А. Смоліча ўстаноўлена, што грашовая дапамога ў памеры 60 рублёў за догляд маці-інваліда І групы за ліпень і жнівень г. г. яму выплачана. Зараз маці аўтара пісьма афармлена ў дом-інтэрнат, і, натуральна, выплата дапамогі спынена.

●

**«У маім доме ёсць тэлефон, але якая з яго карысць, калі ён не працуе. Не спяшаюцца сувязісты адрамантаваць апарат...» Гэта радкі з ліста жыхара в. Строчыца Мінскага раёна В. Заусцінскага.**

**Галоўны інжынер Мінскага раённага вузла сувязі А. Конах** паведамляе, што пытанне вырашана.

Вінаваты ў нясвоечасовым рамонце тэлефона начальнік Самахвалавіцкага лінейна-тэхнічнага ўчастка сувязі А. Забаронак пазбаўлены прэміяльнай аплаты па выніках работы за II квартал г. г.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ «ЗВЯЗДЫ».**

(Тэлефон 32-04-52).

# ПАЛІТЫЧНЫЯ ЛАПЦІ

## Сатырычным пяром

Якія ж цяпер, аднак, дзеці пайшлі — нікому не вераць! Мусіць, ва ўсім вінаваты гэты самы «сацыялістычны рынак», ён псуе падрастаючае пакаленне. Чым яшчэ растлумачыць той, напрыклад, факт, што сын маіх добрых знаёмых, вучань трэцяга класа, без дай-прычыны пачаў раптам крытыкаваць казку Шарля Перо «Кот у ботах»?

— Цяпер свае адносіны да гэтага «Ката» я змяніў,— з непадробным пафасам заявіў юны крытык.— Разабраўся з усімі кацінымі прыгодамі і ўбачыў: не столькі ён клапаціўся пра свайго гаспадара, колькі пра свае ўласныя інтарэсы, каб самому стаць важным вяльможам. Даверлівых зайцоў ды трусоў у мяшок запіхваў, сялян — працоўных абяцаў пасекчы на дробныя кавалкі... Адно — ашуканец, майстар навешваць локшыну на вушы...

Пасля гэткага пасажу паспрабуйце такому вундэркінду, прыйшоўшы з ім у магазін, растлумачыць, што тыя ж боты ці, скажам, чаравікі, якія яшчэ дзе-нідзе стаяць на паліцах, вам купіць ніяк немагчыма. Нават, калі кішэнь лопаецца ад паўлаўскай кампенсацыі. Недаверлівы, навучаны рыначнымі адносінамі хлапчук абавязкова акіне вас іранічным позіркам, які красамоўна гаворыць: «Хітрыеш, татачка! Мусіць, збіраеш грошыкі, каб за двайную цану талоны на гарэлку купіць, альбо задумаў прыдбаць акцыі сумеснага прадпрыемства «Бетон і бекон».

Усё так, скажа чытач, асабліва пажылога ўзросту: сённяшніх юных малайцоў-прагматыкаў на мякіне не правядзеш. Затое што робіць гандаль з намі, старымі, калі пастаянна прыходзіцца даказваць, што ты не вярблюд, а з цябе смяюцца ды навешваюць гэтую самую локшыну на вушы...

Тут аўтар, у сваю чаргу, таксама мусіць пагадзіцца з паважанымі (не гандлем, зразумела) пенсіянерамі і ветэранамі. А заадно дадаць: даныя радкі напісаны зусім не таму, што хочацца ў тысячны і мільённы раз абурыцца нізкім узроўнем работы працаўнікоў прылаўка. Пакуль сістэма працуе па прынцыпах так званага «савецкага гандлю», выхоўваць яе — занятак бяссэнсавы, асабліва ва ўмовах татальнага дэфіцыту. Лепш пакажам, як той жа гандаль (і іншыя службы — таксама) разумее, так сказаць, палітычны момант, прыстасоўвае яго да сваіх патрэб.

ДЫК ВОСЬ, пра боты. Сёння можна толькі пазайздросціць, як хутка будучы маркіз дэ Карабас, адпраўляючы ката-дзялка па справах бізнесу, набыў яму абутак. Для магіляўчаніна ж Г. Шырокіх, інваліда, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, які вырашыў абуцца сам, казка абярнулася кепскім анекдотам.

...Усё пачалося з леташняга пажару ў дачным дамку, які наш ветэран сяк-так зляпіў з дошак і шчытоў у Круглянскім раёне. Паколькі пенсіянер меў прывычку жыць там працяглы час, то, натуральна, забіраў з сабой практычна ўвесь свой гардэроб. Застаўшыся ў адной кашулі і амаль басаногі, не ўмеючы плесці лапці, пагарэлец з афіцыяльнай даведкай з мясцовага сельсавета і рэзалюцыяй аб дазволе набыць тавары, якую наклаў тагачасны загадчык аддзела гандлю Магілёўскага гарвыканкома А. Руды, прыйшоў у гарадскі універмаг. Маўляў, маю поўнае права купіць у вас чаравікі і дзве сарочкі — яны якраз ёсць у продажы.

Далейшыя дэталі апусцім. Ці ёсць што арыгінальнае ў тым, як сустрэла колішняга франтавіка намеснік дырэктара універмага Г. Ямцова, якая была яўна не ў гуморы. Сярод іншых абраз, што дасталіся на долю сівога ветэрана, прагучала і абвінавачванне ў падробцы дакументаў: не было, ці бачыце, ніякага пажару, а прыйшоў ты, галубок, каб нажыцца, падмануць нас.

Арыгінальнай жа Галіна Паўлаўна была ў наступным. Змяніўшы ў канцы эмацыянальнага маналога гнеў на «літасць», яна сказала, як адсекла: тавар магу адпусціць толькі па рашэнню гарвыканкома(!). (Клічнік наш — **Рэд.**).

Што можа зрабіць стары салдат, хоць і самы храбры, але безабаронны перад такім праціўнікам? Толькі тое, што на працягу ўжо сямідзесяці з лішкам гадоў вымагае ад нас наша сістэма,— пісаць заявы.

Сёлетняй зімой Г. Шырокіх накіраваў пісьмо на імя старшыні Магілёўскага гарвыканкома С. Габрусева, потым — яшчэ чатыры. Вынік шматлікіх просьбаў такі ж, якім ён быў бы ў сітуацыі, каб казачны Кот у ботах адкрытым тэкстам адбіў каралю тэлеграму: хачу, маўляў, каб майго гаспадара заўтра ж прызначылі маркізам. Гэта значыць — глухое маўчанне.

Не дапамог чалавеку ў бядзе і А. Руды (цяпер намеснік начальніка ўпраўлення гандлю гарвыканкома), абмежаваўся той самай першай рэзалюцыяй. Дарэчы, ніякіх слядоў скаргаў Г. Шырокіх, правяраючыя з вышэйстаячых інстанцый у гарвыканкоме не выявілі. Не знайшоў іх, між іншым, і аўтар гэтых радкоў.

Як тут не вярнуцца зноў да неўміручага твору французскага пісьменніка? У казцы кароль — самадзержац усё ж бярэ жабрака ў зяці. У наш адукаваны час мы маем у Магілёве вельмі дэмакратычную ўладу, але паварочваецца яна да свайго ж выбаршчыка, які за яе галасаваў, зусім не тварам. Так і вымагаюць паважанага чалавека кленчыць. А калі недакленчышся? Насі лапці? Калі так, то лыка, з якога плятуцца падобныя «лапці», набывае, прабачце, палітычную афарбоўку.

— Асаблівай праблемы тут не бачу,— з зайздроснай лёгкасцю распраўляецца з усімі гэтымі маральна-сацыяльнымі надакучлівасцямі А. Руды.— Зразумела, Ямцова павінна была выканаць маё распараджэнне. Не зрабіла ж гэтага, відаць, па той прычыне, што, як сказала па тэлефоне, ведае пра пажар на той дачы, не ўсё там згарэла, проста скаржнік хітрые. І наогул, ці многа вы бачылі малазабяспечаных ветэранаў-пенсіянераў?— такім бліскучым, проста-такі элегантным пасажам закончыў Анатоль Астапавіч нашу размову.

Ці ўсведамляюць свае «праколы» ў Магілёўскім універмагу? Не трэба пра гэта і пытаць: каб хоць раз гандлёвыя работнікі прызналі ўласную віну, то такі факт адразу трэба было б занесці ў Кнігу рэкордаў Гінеса. Дырэктар У. Вежнавец прапанаваў свой пункт гледжання. Аказваецца, універмаг стварыў для «льготнікаў» самыя лепшыя ўмовы ў рэспубліцы, аднак спажыўцоў гэтай катэгорыі больш, чым тавараў. Да таго ж, яны, такія-сякія, усё расхопліваюць з прылаўкаў, каб забяспечыць сваіх родных.

— Дрэнна тое,— разважаў далей У. Вежнавец,— што ў сённяшняй сітуацыі ўпраўленне гандлю гарвыканкома нічым нам не дапамагае. Там знайшлі «выйсце»— стварылі грамадскія камісіі, якія ўмеюць толькі кіраваць ды правяраць. Канфлікты ж накшталт вышэйпрыведзенага — у асноўным вынік складаных сацыяльных і палітычных умоў.

А. Рудаму таксама не адмовіш у палітычнай дальнабачнасці, калі ён заяўляе:

— Калі ва універмага такі гандлёвы абарот з Польшчай, то навошта і прыслухоўвацца да парад гарвыканкома? Наогул, нам, новай дэмакратычнай уладзе ў горадзе, старыя палітычныя структуры перашкаджаюць працаваць. Адсюль — усе беды.

Вось і разбярыся ў гэтай дымавой слоўнай заслоне. Чалавек дабіваецца хоць бы мінімальнай увагі да сваіх самых надзённых патрэб, а майстры абуваць, як кажуць, у лапці, зноў і зноў навешваюць тую локшыну.

Няўжо тыя, хто мае хоць нейкую ўладу — ці то палітычную, ці то эканамічную,— не разумеюць, што сёння большасці насельніцтва ўсё роўна, хто ты такі — арыстакрат ці дэмакрат, маркіз або марксіст, — толькі дай пажыць спакойна, не адбірай апошні мізэр. І калі на момант прыўзняцца над усімі гэтымі ботамі і кашулямі, то якраз дарэчы будзе пытанне: ці не на такіх людзей — абрабаваных, заціснутых у кут, змучаных цяперашнім бяспраўем і дзікунствам — і разлічвалі арганізатары трохдзённага жнівеньскага путчу? Можа, разлічваюць і сёння, лічачы, што час працуе на іх?

А ЯКІ далейшы лёс скаржніка-пенсіянера Г. Шырокіх? З радасцю паведамім, што вучыцца плесці лапці яму не прыйшлося. У рэшце рэшт ён здагадаўся звярнуцца ў аблвыканком, ва ўпраўленне гандлю, дзе начальнікам А. Шаршнёў. Там адразу завялі спецыяльную картку, узялі пытанне на кантроль, а каралеву дэфіцыту Г. Ямцову спусцілі з нябёс на зямлю. Праз пяць дзён удзячны пагарэлец ужо хадзіў у недарагіх новых чаравіках.

Услед за ім і аўтар пяе асанну такому «бюракратызму», а дакладней — прафесіяналізму і парадку ў рабоце, астраўкі якога, аказваецца, яшчэ захаваліся ў моры дылетанцтва і наплявацельства ў адносінах да тых, хто ад цябе залежыць. Ужо толькі з гэтага пункту гледжання трэба вітаць прыватызацыю ўстаноў гандлю. Калі гандляр пачне працаваць на свой страх і рызыку, ён адразу зробіцца лепшым сябрам пакупніка.

У заключэнне выкажу такую крамольную думку. А што, калі ў тым жа Магілёве па прыкладу Масквы замяніць устарэлую структуру — гарвыканком — на мэрыю, дзе працавалі б сапраўдныя прафесіяналы, а не выпадковыя людзі, якім усё роўна, чым кіраваць, абы ішла зарплата. Тут якраз дарэчы будзе паспачуваць А. Рудаму, па адукацыі энергетыку: відаць, нялёгка прыходзіцца яму на яго цяперашняй пасадзе, хоць ён і робіць выгляд, быццам адразу пранік ва ўсе складанасці такой таямнічай справы, як сучасны рыначны гандаль.

Так, ніколі нам не выбрацца з багны бязладдзя і галечы, калі, як гэта было ў нас дзесяткі гадоў, піражнік будзе шыць боты, кухарка — кіраваць дзяржавай, а шавец возьмецца за кесарава сячэнне. У народзе даўно нарадзілася дасціпная прымаўка: кесару — кесарава, а слесару — слесарава. Няхай так і будзе заўсёды. Народ у цэлым, між іншым, ніколі дурнем не быў і быць не можа.

**В. ЧАРНЯЎСКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**

# У ДРУЖНАЙ СЯМ'І

Як бы ні склаўся ў далейшым лёс гэтых хлапчукоў і дзяўчынак, назаўсёды запомняць яны горкія, поўныя дзіцячых слёз дні. Запомняць і наступіўшы затым пералом у сваім жыцці, калі ўпершыню трапілі за парог школы-інтэрната.

У прасторных будынках вучэбнага гарадка на ўскраіне Рудзенска жывуць сіроты і дзеці, што засталіся без бацькоўскай апекі. Утульныя спальні, добра абсталяваныя класы, спартыўная зала, майстэрні — усё гэта выгадна кантрасціруе з іх ранейшым жыццём. Вопытныя, чулыя педагогі замянілі ім бацькоў. Сто семдзесят выхаванцаў жывуць дружнай сям'ёй.

Хутка іх гарадок значна пашырыцца: намечана пабудаваць басейн, пральню, рэканструяваць сталовую.

**Я. ПЯСЕЦКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ:**

● Вучні Аляксандр **БАЖКО** і Таццяна **ЖЫЖА** кансервуюць ураджай са школьнай падсобнай гаспадаркі.

● Дырэктар школы-інтэрната Валянцін Несцеравіч **ГІЛЕНСКІ** з выхаванцамі.

● Добраўпарадкаваннем пляцоўкі для гульняў заняты выкладчык Вацлаў Міхайлавіч **ГАРЭЛІК** і вучні Дзмітрый **БРЫЛЕЎСКІ**, Сяргей **ЛЕСІК**.

**В. ЧАРНЯЎСКІ,**
**спец. кар. «Звязды».**

